Шлях місіянера ў Беларусі 3

Каталік і вера ў гараскопы 4

Рахунак сумлення 5

Моладзевая пляцоўка "На скрыжаванні" 7



Гродна
№3 (438),
7 лютага 2016

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# КАСЦЁЛ ПРА АСТРАЛОГІЮ: НЕ ДАЙЦЕ СЯБЕ ПАДМАНУЦЬ!

*Набірае папулярнасці захапленне гараскопамі, якія, нібыта, павінны дакладна раскласці па паліцах жыццё, падказаць, з кім сябраваць, каго кахаць, як паводзіць сябе на працы, дома, ці варта ўступаць у шлюб бліжэйшым часам і г.д. Ці можа сапраўдны хрысціянін наіўна прызнаваць, што яго жыццё залежыць ад зорак ці іншых нябесных сіл, а не ад яго самога і Божага Провіду?*

● працяг на с. 4

# ДАКРАНУЦЦА ДА ТАЯМНІЦЫ ПАКЛІКАННЯ






На заканчэнне пастарскага года кансэкраваныя асобы атрымалі з рук біскупа сімвалічныя свечкі

*2 лютага ў Паўсюдным Касцёле завяршыўся Год кансэкраванага жыцця, абвешчаны папам Францішкам з нагоды 50-годдзя саборнага дэкрэта "Perfecta caritatis" аб аднаўленні манаскага жыцця.*

*Касцёл перажываў мінулы пастарскі год пад дэвізам "Узрадавайся дух мой". Нанова адкрывалі сваё пакліканне асобы, якія прысвяцілі сябе служэнню Богу, а вернікі мелі магчымасць глыбей спазнаць багацце іх харызмаў і працы.*

У газеце "Слова Жыцця" чытачам было прапанавана "дакрануцца" да таямніцы паклікання кансэкраваных асоб Гродзенскай дыяцэзіі, прайшоўшы разам з імі гэты няпросты, але поўны Божай ласкі шлях. Героі артыкулаў дзяліліся сваімі ўспамінамі, перажываннямі, марамі. Кожнае сведчанне – непаўторнае. У кожнай гісторыі – цуд Божага Промыслу.

● працяг на с. 3

## Каляндар падзей

***10 лютага***
*Папяльцовая серада. Абавязковы сціслы пост. Пасыпанне галоў попелам. Пачатак Вялікага посту.*

***11 лютага***
*Сусветны дзень хворых.*

***14 лютага***
*I Нядзеля Вялікага посту.*

***Заахвочваем да ўдзелу ў набажэнствах Песняў жальбы і Крыжовага шляху ў сваіх парафіяльных касцёлах і дамах.***

## Запрашаем!

***Праграма каталіцкай рэдакцыі***

***"Голас Евангелля"***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.*
***Кожную нядзелю ў 8.00***
*запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*
***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

## Ружанцовыя інтэнцыі:

***Люты***

*За новыя парафіяльныя супольнасці і касцёлы, якія будуюцца ў дыяцэзіі.*

*Аб узросце адказнасці сярод вернікаў за свае парафіі і касцёлы.*

## Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

***Як Вы перажывеце Вялікі пост?***

- *прысвячу больш часу на малітву*
- *пастанаўлю дадатковае абмежаванне ў ежы*
- *устрымаюся ад ужывання алкаголю*
- *не буду ўдзельнічаць у гучных забавах*
- *прыму ўдзел у дадатковых набажэнствах, прапанаваных Касцёлам*
- *пастараюся выканаць усе вышэйшыя пункты*
- *перажыву гэты перыяд як і іншыя дні года*
- *цяжка сказаць*

 выкажыся

**"Міласэрнасці хачу, а не ахвяры" (Мц 9, 13)**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**V НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ**
**Лк 5, 1–11**

У той час: натоўп ціснуўся да Езуса, каб слухаць слова Божае, а Ён стаяў каля возера Генэзарэт. І ўбачыў Ён два чаўны, якія стаялі каля возера, а рыбакі выйшлі з іх і паласкалі сеткі. Увайшоўшы ў адзін з чаўноў, які належаў Сымону, папрасіў яго крыху адплысці ад берага. Тады Ён сеў і вучыў людзей з чаўна. А калі скончыў гаварыць, сказаў Сымону: "Плыві на глыбіню, а вы закіньце сеткі вашыя для ўлову". Сымон сказаў Яму ў адказ: "Настаўнік, мы працавалі ўсю ноч і нічога не злавілі, але на Тваё слова закіну сеткі". Зрабіўшы так, яны злавілі вялікае мноства рыбы, аж пачыналі рвацца іхнія сеткі. Іківалі супольнікам, якія былі ў другім чаўне, каб прыйшлі дапамагчы ім. Тыя прыйшлі і напоўнілі абодва чаўны, так што яны пачалі тануць. Калі гэта ўбачыў Сымон Пётр, прыпаў да каленяў Езуса і сказаў: "Адыдзі ад мяне, Пане, бо я чалавек грэшны". Бо з-за ўлову рыбы, якую злавілі, вялікае здзіўленне ахапіла яго і ўсіх, хто быў з Ім, а таксама Якуба і Яна, сыноў Зэбэдэя, якія былі супольнікамі Сымона. Тады сказаў Езус Сымону: "Не бойся, адгэтуль будзеш лавіць людзей". А калі выцягнулі чаўны на бераг, пакінулі ўсё і пайшлі за Ім.

## ЕЗУС НЕ ПРОСІЦЬ ШМАТ

Калі Пётр дазволіў Езусу ўвайсці ў сваю лодку, каб Ён мог з яе навучаць, Пётр не прадбачыў наступстваў свайго рашэння. Затым быў цудоўны ўлоў рыбы. Потым ён пачуў дзівоснае абяцанне лоўлі людзей. Пасля гэтага падзеі пацяклі лавінай з непрадбачаным накірункам і вынікамі: праз глыбейшую з кожным разам прыязнасць з Езусам, прысутнасць пры незвычайных цудах, уважлівае слуханне Добрай Навіны. Была і здрада, потым слёзы жалю, каб адразу ж пасля гэтага быць удзельнікам радасці ўваскрасення Настаўніка. Пётр не мог маўчаць, ён павінен быў выканаць наказ-абяцанне: ён абвяшчаў людзям Хрыста ажно да мучаніцтва на крыжы ў Рыме, у імператарскіх садах. А ўсё гэта пачалося з дазволу, каб Езус увайшоў у лодку...

Ці здольны я пазычыць Езусу частачку майго жыцця?..

**І НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**
**Лк 4, 1–13**

Езус, напоўнены Духам Святым, вярнуўся з-над Ярдану, і Дух вывеў Яго ў пустыню, дзе на працягу сарака дзён д'ябал выпрабоўваў Яго. І нічога не еў у тыя дні, а калі яны скончыліся, зграладаўся. І сказаў Яму д'ябал: "Калі Ты Сын Божы, скажы гэтаму каменю, каб ён стаў хлебам". І адказаў яму Езус: "Напісана: не хлебам адным будзе жыць чалавек". Тады д'ябал павёў Яго і паказаў у імгненне ўсе валадарствы свету. І сказаў Яму: "Я дам Табе ўсю гэтую ўладу і славу іх, бо яна мне перададзена, і каму хачу, даю яе. Калі Ты паклонішся мне, усё будзе Тваё". У адказ Езус сказаў яму: "Напісана: Пану Богу твайму будзеш пакланяцца і Яму аднаму будзеш служыць". Тады завёў Яго ў Ерузалем і паставіў на версе святыні, і сказаў Яму: "Калі Ты Сын Божы, кінься адгэтуль уніз. Бо напісана: Анёлам сваім загадае наконт Цябе, каб ахоўвалі Цябе, – яны на руках панясуць Цябе, каб Ты часам не спатыкнуўся аб камень сваёй нагою". Езус сказаў яму ў адказ: "Сказана: не будзеш выпрабоўваць Пана Бога твайго". І скончыўшы ўсе выпрабаванні, д'ябал адступіў ад Яго да пары.

## ЗВАЖАЙЦЕ НА ШАТАНСКІЯ МЕТАДЫ!

Якое з выпрабаванняў Пана Езуса з'яўляецца найбольш небяспечным? З усёй упэўненасцю, самае каварнае – гэта трэцяе, калі д'ябал падмацоўвае сваю спробу выпрабавання Божым словам: "Бо напісана: Анёлам сваім загадае наконт Цябе, каб ахоўвалі Цябе...". Па-сапраўднаму д'бальскае нахабства!

Час зменяецца, спакушэнне чалавека атрымлівае больш дасканалыя формы, але д'ябальская самаўпэўненасць і нахабства надалей такія самыя: каб прывесці нас да ўпадку граху, д'ябал прымае выгляд "дабрачынца", спасылаецца на нашу годнасць і вольнасць, якой нас адарыў Стварыцель. Кожнае выпрабаванне носіць у сабе частачку першага граху: у сваёй вольнасці ты можаш быць як Пан Бог – ты сам вырашыш, што добра, а што дрэнна. Давайце будзем пільнымі і не дадзім увесці сябе ў зман!

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*



## СЛОВА РЭДАКТАРА

*Кс. Павел Салабуда*

# Вялікі пост і міласэрнасць

*Напярэдзе Вялікі пост – перыяд, калі разам з Езусам мы будзем перажываць самую вялікую таямніцу хрысціянства. На працягу сарака дзён мы разам з Хрыстом будзем несці крыж, ідучы на сваю Галгофу. Час Вялікага посту перамяняе сэрцы тысяч вернікаў. Хрысціянскі свет напаўняецца ўдзячнасцю Богу, які аддае жыццё за кожнага чалавека, адкрываючы перад намі брамы неба.*

Няма лепшай нагоды, як менавіта ў гэты час паразважаць аб міласэрнасці. Адчуваючы вялікую Божую ахвяру, мы ўсведамляем веліч Божай любові да кожнага з нас. Варта таксама падумаць аб міласэрнасці сярод людзей навокал, у нашым жыцці і ў сучасным свеце. Абвяшчаючы Год міласэрнасці, папа Францішак прыгадаў: "Няхай Вялікі пост у Юбілейным годзе будзе пражыты яшчэ больш інтэнсіўна, як важны момант, каб цэлебраваць міласэрнасць Бога і спазнаваць яе". А ў сваім пасланні на сёлетні Вялікі пост Папа дадае: "Божая міласэрнасць змяняе сэрца чалавека і дазваляе яму адчуць вернаю любоў, робячы і яго здольным на міласэрнасць. Цудам, які ўвесь час адналяецца, з'яўляецца той факт, што Божая міласэрнасць можа асвяціць жыццё кожнага з нас, пабуджаючы любіць бліжняга і рабіць тое, што традыцыя Касцёла называе ўчынкамі міласэрнасці для цела і душы".

На пачатку вялікапоснага перыяду варта задаць сабе некалькі пытанняў наконт таго, ці здольны мы перажыць гэты час больш інтэнсіўна, ці можа ён быць для нас важным перыядам, або гэта проста чарговы Вялікі пост, які мы перажывём без усялякіх змен? Варта ўжо на самым парогу чарговага літургічнага перыяду падумаць пра вялікую любоў Хрыста да кожнага з нас, адчуць Божую міласэрнасць у сакраманце споведзі, перажыць блізкасць Бога падчас святой Імшы і Камуніі, разам з Хрыстом узяць крыж і накіравацца да брам збаўлення, у неба. Варта ўжо на самым пачатку перажыць сваё асабістае навяртанне, прыгадваючы ўчынкі міласэрнасці для душы і цела.

Пад канец гэтага кароткага разважання хацелася б яшчэ раз звярнуцца да паслання Папы, у якім ён заахвочвае кожнага з нас:

**"Для ўсіх Вялікі пост у гэтым Юбілейным годзе з'яўляецца спрыяльным момантам, каб урэшце выйсці з адчужэння праз слуханне Божага слова і ўчынкі міласэрнасці. Праз учынкі для цела мы дакранаемся да цела Хрыста ў братах і сёстрах, якім неабходна, каб іх накармілі, адзелі, прынялі ў дом і адведалі, а праз духоўныя ўчынкі – даванне парад, павучанне, дараванне крыўды, настаўленне і малітву – мы больш непасрэдна дакранаемся да нашай уласнай грэшнасці. Таму ўчынкаў для цела і душы ніколі нельга аддзяляць ад сябе".**

ДЭКАНАТ ЛІДА

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*

# Мінойты



*Знешні выгляд святыні*



*Галоўны алтар*

У 1920-я гады тут арганізавалася каталіцкая супольнасць, намаганнямі і на сродкі якой на ўсходняй ускраіне вёскі з 1927 года пачалося будаўніцтва касцёла, які спачатку атрымаў статус філіяльнага ад лідскай парафіі. Святыня пабудавана з дрэва без асаблівых стылёвых архітэктурных рыс. У 1929 годзе тут ужо была заснавана самастойная парафія. Касцёл быў асвечаны 28 ліпеня 1929 года пад падвойным тытулам – Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Андрэя Баболі.

Касцёл уяўляе сабой трохнававую аднавежавую святыню, накрытую двухсхільным металачарапічным дахам, над алтаром – шатровая сігнатурка. Над галоўным фасадам узвышаецца чацверыковая шатровая вежа-званіца. Уваход пазначаны прытворам.

Кожная з нававу перакрыта цыліндрычным падшыўным дашчатым скляпеннем. У касцёле тры алтары: галоўны і левы бакавы – тытульныя, прысвечаныя адпаведна Найсвяцейшаму Сэрцу Пана Езуса і св. Андрэю Баболі, трэці алтар – Святой Сям'і – змешчаны ў каменнай (газасілікатныя блокі пад тынкам) капліцы, прыбудаванай у 1990-х гадах падчас капітальнага рамонту святыні.

Касцёл дзейнічаў і пры савецкай уладзе, хоць часам без сталага пробашча, дзейнічае і сёння. Асобна ад святыні ў 1990-х гадах была пастаўлена каркасная металічная вежа-званіца.

## Малітва праз заступніцтва св. Блажэя




**Усемагутны, Вечны Божа! З жывой верай і пашанай я ўсхваляю Тваю Боскую веліч і кланяюся Табе, а таксама прашу з дзіцячым даверам Тваіх ласкаў і міласэрнасці. Асвяці змрок майго розуму промнем Твайго святла і распалі маё сэрца агнём Тваёй боскай любові, каб я мог сузіраць вялікія цноты і заслугі св. Блажэя, і так, як ён, пераймаць жыццё Твайго Боскага Сына. Прашу Цябе таксама аб ласцы ... праз заслугі і заступніцтва гэтага магутнага духоўнага памочніка, святога Блажэя. "Будзь воля Твая як у небе, так і на зямлі". Выслухай ласкава гэтыя словы, калі яны пойдуць на большую хвалу Тваю і на збаўленне душы.** *Амэн.*

## Малітва праз заступніцтва св. Агаты

**Усемагутны Божа, няхай нам выпрасіць Тваю міласэрнасць святая Агата, панна і мучаніца, якая падабалася Табе, дзякуючы мучаніцтву і прысвечанай Табе чыстасці.**

**Праз заслугі святой Агаты, нашай заступніцы, просім Цябе, Божа, узмацняй нас, каб мы ніколі не палохаліся цяжкасцей і болю, але каб наша любоў умацаваная ў цярпенні, як у агні разагравала сэрцы іншых і вяла нас да Цябе.**

**Усемагутны Божа, няхай святая Агата заступаецца за нас і нашых блізкіх, выпрошае нам патрэбныя ласкі, апекуецца намі і асцерагае ад усякай небяспекі. Праз Хрыста, Пана нашага.** *Амэн.*

# Шлях місіянера ў Беларусі

*Мінула 19-я гадавіна з дня смерці айца Станіслава Гаўліка, які значную частку свайго святарскага жыцця прысвяціў адраджэнню Касцёла на Гродзеншчыне. Прыклад яго ахвярнага жыцця, даверу Богу, любові да Касцёла і людзей годны да пераймання.*



*Вернікі ўспамінаюць святара з вялікай удзячнасцю*



*Айцец меў шмат планаў па адбудове святынь і людскіх сэрцаў*

Айцец Станіслаў нарадзіўся ў 1945 годзе ў Тшэбніцы каля Вроцлава (Польшча). З маладых гадоў марыў стаць святаром, але неабходнасць апекавацца хворым бацькам на некаторы час адклала рэалізацыю Божага паклікання. Працаваў медычным братам у мясцовым шпіталі. Адначасова прыслужваў закрыстыянінам у базіліцы святой Ядзвігі, Каралевы Сілезіі. Пасля смерці бацькі ва ўзросце 34 гадоў уступіў у Ордэн Місіянераў Кларэтынаў. У 1986 годзе атрымаў святарскае пасвячэнне. Апошнія сем гадоў жыцця правёў у Беларусі, дзе займаўся душпастарскай працай і выкладаў у Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

Айцец прыехаў у Беларусь на хвалі перабудовы. У 1990 годзе біскуп Аляксандр Кашкевіч прызначыў яго пробашчам парафіі святога Юды Тадэвуша ў Прывалцы. Святару спадабалася ваколіца прынёманскай вёскі, схаваная сярод лясоў былой Гарадзенскай пушчы. Ён любіў паўтараць: "Ёсць шмат працы, якую трэба зрабіць, патрэбна толькі крыху добрай волі".

Спачатку людзі не разумелі, што пробашч будзе рабіць у такой малой парафіі, а потым дзівіліся, як яму на ўсё хапае часу. Адначасова з аднаўленнем старадаўняга касцёла ў Прывалцы святар разам з вернікамі будаваў цагляны касцёл у Азёрах і капліцу ў Пераломе, вёў рамонт у Кашубінцах і Жыдомлі. Намаганнямі айца Станіслава ў Прывалцы і Дуброве былі пастаўлены прыдарожныя крыжы. У Прывалцы святар аднавіў старыя вайсковыя могілкі з Першай сусветнай вайны, удзельнічаў у перазахаванні жаўнераў з вёскі Стрыеўка каля Азёраў.

У кастрычніку 1994 года ў Прывалцы быў асвечаны касцёл. Святар пажадаў, каб пасля шматгадовага перапынку ў парафіі не было душ, якія далёка стаяць ад Хрыста.

Кожная нядзельная святая Імша ўспрымалася вернікамі як вялікая ўрачыстасць. Дзеці старанна развучвалі псалмы, жанчыны прыбіралі і ўпрыгожвалі касцёл. У святыні заўсёды стаялі жывыя кветкі. Асабліва айцец любіў белыя ліліі – сімвал чысціні…

У святара быў моцны і прыгожы голас. Ён вучыў спяваць дзяцей, моладзь, а таксама старэйшых асоб. Дзякуючы яго намаганням быў куплены новы электраарган, бо стары прыгожы інструмент быў знішчаны падчас вайны.

Пасля кожнай Імшы айцец хутка пераапранаўся і выходзіў на дзядзінец касцёла, каб паразмаўляць з людзьмі. Ніхто не спяшаўся пасля набажэнства дахаты, кожнаму хацелася асабіста прывітацца са святаром і, калі дазволіць, пацалаваць яго руку.

На вялікія святы Евангелле ў касцёле чыталася на чатырох мовах: беларускай, рускай, польскай і літоўскай, – каб усе прысутныя разумелі Божае слова. З пачатку 1991 года пробашч пачаў вывучаць з дзецьмі і моладдзю малітвы на беларускай мове. На сцяне касцёла вісеў плакат са словамі "Ойча наш" і "Вітай, Марыя". Святар паважаў кожны народ, а найперш той, з якім яму выпала працаваць.

Айца Станіслава вабілі мясцовыя традыцыі. Ён распытваў старэйшых асоб пра святочныя звычаі. На аснове гэтага на Божае Нараджэнне было адноўлена калядаванне па вёсцы. На Вялікдзень вернікі хадзілі па хатах з гармонікам і складалі адзін аднаму святочныя пажаданні.

Айцец любіў рэчы ўласнага вырабу. У касцёле нават была арганізавана выстава такіх прац. Хто хацеў, мог паспрабаваць свае сілы ў ткацтве ходнікаў. Каля ўваходу ў святыню былі пастаўлены невялікія кросны.

Незабыўным момантам для ўсёй парафіі была паездка ў Вільню. Айцец замовіў вялікі аўтобус, і ўсе жадаючыя маглі наведаць сталіцу былога Вялікага Княства Літоўскага. Далей была паездка ў Катынь і Курапаты. Пасля гэтага многія маладыя людзі пачалі цікавіцца гісторыяй свайго краю і вёскі.

З першых дзён сваёй працы ў Беларусі айцец Гаўлік пашыраў ідэі экуменізма. Сябраваў з праваслаўным святаром айцом Міхалам Астроўскім з Азёраў. Дарэчы, там праваслаўны і каталіцкі храмы падзяляе толькі невялікі драўляны плот. У той час вернікі дзвюх канфесій ахвотна хадзілі віншаваць адзін аднаго са святамі, а калі была патрэба, і дапамагалі.

Айцец Станіслаў Гаўлік быў чалавекам з вялікім сэрцам і міласэрнай душой. Кожны мог звярнуцца да яго ў патрэбе. Па магчымасці святар імкнуўся ўсім дапамагчы. Клапаціўся пра хворых і старэйшых людзей.

Я сустрэла айца якраз у час пошуку ідэалаў і праўды. Ён стаў для мяне духоўным пастарам і настаўнікам, паказаў мне будучы шлях і накіраваў у патрэбным напрамку. Пасля Гродзенскага педагагічнага вучылішча я паступіла на гадавы курс польскай мовы ў Вроцлаў. Вярнулася і выкладала ў Прывалцы ў вясковай школе музыку і польскую мову. Адначасова з гэтым пачала іграць у касцёле падчас святой літургіі. Для мяне гэта было вялікай радасцю і гонарам.

Святар хацеў абудзіць у людзях духоўны пачатак, даваў надзею на лепшы свет. Вельмі любіў дзяцей і моладзь, вечарамі збіраў маладых людзей для супольнага спеву і разважанняў. Дзякуючы адданай працы душпастара, з парафіі Прывалка выйшлі два ксяндзы: кс. Віталь Чабатар і кс. Ігнат Санюта, якія вельмі ўдзячны пробашчу за яго першапачатковую навуку.

Айцец збіраў звесткі пра мінулае вёскі, хацеў напісаць кнігу пра гістарычны шлях парафіі. На жаль, скончыць працу не паспеў. Памёр у снежні 1996 года ў Тшэбніцы, на наступны дзень пасля адыходу ў той свет свайго старэйшага брата.

Ён не ўмеў шкадаваць сябе і не слухаў урачоў, якія рэкамендавалі адпачынак і запаволены тэмп працы. Айцец Станіслаў як бы прадчуваў, што няшмат яму адпушчана, таму імкнуўся зрабіць як мага больш, выкарыстоўваў кожную хвіліну жыцця.

***За апошнія гады колькасць жыхароў вёскі Прывалка зменшылася. Цяпер парафія найменшая ў дыяцэзіі, а касцёл (дакладней, касцёльная вежа), патрабуе дасканалага рамонту. З гэтай нагоды звяртаюся да былых парафіян з прапановай адрамантаваць касцельную вежу...***

*Наталля Шкапіч-Ганько*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

*Папа Францішак*



*Бог валодае ўжо ўсёй зямлёй, таму што Ён стварыў яе; але людзі становяцца для Яго іншай, асаблівай уласнасцю: Яго асабістым "запасам золата і серабра", як той, пра які цар Давід казаў, што даў на будаўніцтва святыні. Што ж, такімі мы становімся для Бога, калі прымаем Яго запавет і дазваляем сябе збавіць. Міласэрнасць Пана робіць чалавека каштоўным, як асабістае багацце Бога, якое Ён бароніць і ў якім мае ўпадабанне.*

*Гэта цуды Божай міласэрнасці, якая дасягае сваёй поўні ў Езусе, у гэтым "новым і вечным Запавеце", які быў заключаны праз Яго кроў і які разам з прабачэннем знішчае наш грэх і канчаткова робіць нас Божымі дзецьмі (параўн. 1 Ян 3, 1), каштоўнымі камянямі ў руках добрага і міласэрнага Айца.*

*Агульная аўдыенцыя Святога Айца, 27.01.2016*

*Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Моцаю хросту мы ўсе інкарпараваны ў Хрыста, утвараем адзіны Божы народ і з'яўляемся святарскім народам. Менавіта таму, калі мы будзем сумесна абвяшчаць Божае слова, то наша абвяшчэнне не будзе падобна да згубленых у сучасным амаральным акіяне кропель, але стане моцным Божым цудам, здольным змяніць свет.*

*Падзелы паміж хрысціянамі з'яўляюцца вялікай перашкодай для евангелізацыі. Свет не можа паверыць, што мы з'яўляемся вучнямі Хрыста, калі наша ўзаемная любоў не поўная, калі паміж намі няма згоды і паразумення. У той жа час наша хрысціянскае жыццё павінна быць напоўнена адкрытасцю адзін на аднаго, на іншыя хрысціянскія традыцыі. Кожны з нас, захоўваючы сваю традыцыю і ідэнтычнасць, павінен памятаць і аб тым, што мы ўсе з'яўляемся членамі таго ж самага Містычнага Цела Хрыста. А гэта азначае, што мы павінны быць адзіным цэлым, аб чым маліўся Езус падчас Апошняй Вячэры. Менавіта таму сёння мы молімся, каб Дух Святы вёў нас да адзінства.*

*Фрагмент гаміліі падчас малітвы аб еднасці хрысціян, 23.01.2016*

# Дакрануцца да таямніцы паклікання

• працяг са с. 1

## Чым так запомніліся выступоўцы?

**Сястра Філатэя CSFN** горача прасіла Бога, каб брат сустрэў дзяўчыну, з якой створыць сям'ю. Тады Ён зможа яе забіраць, бо бацькі будуць спакойныя, што дачакаюцца ўнукаў, якіх вельмі хацелі.

**Сястра Элігія CSBMVM** засталася ў памяці "дзіцём за пакуту". Падчас місій яе бацька прыступіў да сакраманту споведзі і атрымаў незвычайнае заданне: у сям'і павінна нарадзіцца яшчэ адно дзіця. Сваё ўступленне ў манастыр сястра расцаніла як запрашэнне, на якое адказала згодай.

**Айцец Мар'ян CSMA** прыняў святарскае пасвячэнне з рук святога Яна Паўла II. Марыў выехаць на місіі ў Папуа-Новую Гвінею, але з-за сур'ёзнай траўмы быў вымушаны адмовіцца ад гэтай задумы.

**Сястра Аліцыя SSND** пры паступленні ва ўніверсітэт, на дзіва, не здала экзамен, які ведала лепш за ўсё. Хацела працаваць бібліятэкарам.

**Сястра Караліна SSND** марыла стаць настаўніцай. Але выкладаць не проста прадмет, а штосьці асаблівае.

**Айцец Пётр CSMA** вучыўся на повара і спадзяваўся на благаслаўленне маці. Не дачакаўшыся, пайшоў у семінарыю, бо ўсё жыццё марыў стаць манахам і святаром.

**Сястра Іерамія CSFN** была адной з першых у Беларусі сясцёр назарэтанак, якія прыйшлі ў супольнасць адразу з-за школьнай лавы.

**Сястра Агнешка SSND** адчувала сябе самай шчаслівай, калі ў парафіяльным касцёле ёй даручылі пераключаць слайды падчас Імшы. Вера "для бабулі" перарадзілася ў сапраўдную і глыбокую.

**Айцец Андрэй CSsR** не закончыў Інстытут сучасных ведаў – адказаў на голас паклікання і прыняў рашэнне стаць місіянерам.

**Сястра Лілія CSSBMVI** малілася да Бога з просьбай блаславіць яе на стварэнне добрай сям'і. Але прарок Ісая накіраваў дзяўчыну праз Біблію іншым шляхам.

**Айцец Антоній OFMConv** думаў паступаць у Акадэмію Міністэрства ўнутраных спраў. У выніку займаецца ўнутранымі справамі вернікаў, якія прагнуць святарскай дапамогі.

**Айцец Дзмітрый CSsR** хацеў быць вадзіцелем, як бацька. Моцна маліўся аб распазнанні паклікання. У выніку паступіў у семінарыю, патлумачыўшы свой выбар тым, што хоча служыць Богу і людзям.

**Сястра Зоя ISSM** марыла іграць у аркестры і гадаваць пяцёра дзяцей. Падчас небяспечнай аперацыі яе маці горача прасіла ў Бога: "Няхай будзе ўсё, што хочаш, толькі каб дачка не памерла". І стала паводле Яго волі.

**Сястра Тэрэза CSFN** працавала ў атэлье, але ўвесь час адчувала ўнутры сябе моцную Божую любоў і па магчымасці імкнулася на яе адказаць.

**Айцец Андрэй CSsR** вырашыў стаць рэдэмптарыстам пасля знаёмства з клерыкамі, якія прыязджалі дапамагаць у будаўніцтве парафіяльнага касцёла.

**Сястра Вольга CSFN** паступала ў медінстытут, але Божымі шляхамі трапіла ў кляштар.

**Айцец Казімір OMI** яшчэ ў дашкольным узросце любіў бавіцца "ў ксяндза". Жаданне быць святаром ажывіла сустрэча з дэмаралізаванай моладдзю.

**Айцец Яўген OFMConv** збіраўся да пробашча за характарыстыкай на журналіста, а папрасіў, каб яго прынялі ў ордэн.

**Айцец Віталій SChP** марыў працаваць з маладымі людзьмі і насіць бараду.

**Айцец Эдуард CSsR** вучыўся на будаўніка. Але Бог прапанаваў яму нешта іншае – будаваць моцную веру ў сэрцах людзей.

**Усе гэтыя гісторыі аб'ядноўвае адно – давер Усявышняму, у якога на кожнага маецца свой план. Гэтыя людзі на 101% ахвяравалі сваё жыццё Богу і людзям. Дзякуючы ім, мы шырэй адкрылі для сябе Бога. Упэўніліся ў тым, што Ён нас вельмі моцна любіць. Нават болей, чым мы самі. Ён асцярожна адкрывае сэрца і пранікае ў душу. Вучыць адкрытасці на бліжніх. Для пераадолення цяжкасцей адорвае ласкай. Яму варта аддаваць усё. За поўны давер без усялякіх чаканняў Бог узнагароджвае стакратна. На Яго заўсёды можна спадзявацца. Гэта цярплівы Айцец, які выхоўвае да святасці і дазваляе сябе любіць.**

**Бог заўсёды павінен быць на першым месцы – Каралём жыцця чалавека. Для Яго варта рабіць нешта большае. У той жа час не мы выбіраем Бога, а Ён выбірае нас. І ніколі не памыляецца. А кожны, хто шукае Бога, знойдзе Яго. І ніколі ўжо не заблукае, калі будзе размаўляць з Усявышнім. Тлустую рысу падвёў апошні герой рубрыкі "На службе Богу" айцец Эдуард CSsR, які заўважыў, што Бог – гэта найбольшая і найлепшая таямніца, якую кожнаму з нас не спазнаць да канца жыцця...**

**Шчырая падзяка ўсім, хто ўдзельнічаў у гэтым займальным падарожжы. Спадзяёмся, яно было цікавым і карысным для абодвух бакоў.**

*Ангеліна Пакачайла*




◆ *Рыхтуецца чарговае замежнае падарожжа Святога Айца. Папа абяцаў наведаць Калумбію. Аб гэтым паведаміў старшыня епіскапата ў гэтай краіне абп Луіз Аўгуста Кастра Кірога. Францішак згадзіўся наведаць Калумбію ў першай палове наступнага года. Папскі візіт павінен паспрыяць умацаванню міру ў гэтай краіне пасля заключэння пагаднення паміж урадам і левымі паўстанцамі з групоўкі FARC. "Перагаворы па гэтай справе яшчэ вядуцца. Прыезд Папы не залежыць ад заключэння пагаднення", – заўважыў абп Кастра Кірога.*

◆ *Папа Францішак прыняў на аўдыенцыі 22 студзеня Цімаці Кука, старшыню савета амерыканскай кап'ютарнай кампаніі "Apple", а 15 студзеня – кіраўніка амерыканскай транснацыянальнай публічнай карпарацыі "Google" Эрыка Шміта. Аб падрабязнасцях сустрэчы ў Ватыкане не інфармуецца. Аўдыенцыі адбыліся пасля хвалі тэрарыстычных актаў у Парыжы, Сан-Бернардзіна, Стамбуле і Джакарце. Гэта таксама выклікала большую зацікаўленасць і дыскусіі на тэму ролі грамадскіх платформ, такіх як "Twitter", "YouTube" і "Facebook".*

◆ *Пастаянны назіральнік Апостальскай Сталіцы пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Ёрку выступіў у Савеце Бяспекі. Падчас адкрытай дыскусіі абп Бернардзіта Ауса выказаўся ў абарону грамадзянскіх асоб ва ўзброеным канфлікце. Ён адзначыў, што за злачынствы, учыненыя супраць мірнага насельніцтва, у той ці іншай ступені адказная ўся міжнародная супольнасць: з-за абыякавасці і маўчання або вытворчасці і продажу зброі. На думку арцыбіскупа, варта ўзмацніць закон аб абароне грамадзянскіх асоб у час баявых дзеянняў, пераканацца, каб яго прытрымліваліся, і несці усякую магчымую дапамогу людзям, якія пацярпелі.*

◆ *У канцы студзеня ў Кіеўскай праваслаўнай багаслоўскай акадэміі адбылася прэзентацыя малітоўніка на ўкраінскай мове, надрукаванага шрыфтам Брайля. У арганізацыі і фінансаванні выдання для невідушчых прынялі ўдзел Сінадальны аддзел сацыяльнага служэння і дабрачыннасці Украінскай праваслаўнай царквы Кіеўскага патрыярхата "Eleos-Ukraine", аддзел арганізацыі дабрачыннасці і сацыяльнага служэння Валынскай епархіі УПЦ КП, Валынскі абласны цэнтр Усеўкраінскай моладзевай грамадскай арганізацыі інвалідаў з недахопамі зроку "Генерацыя паспяховага дзеяння". Унікальны малітоўнік выйшаў тыражом 400 асобнікаў.*

◆ *Правінцыял польскіх дамініканцаў а. Павел Казацкі прызначыў а. Мацея Сашыньскага і а. Войцеха Пруса душпастарамі Ледніцкага руху. А. Ян Гура, ініцыятар сустрэч моладзі "Ледніца 2000", які да гэтага часу быў душпастарам руху, памёр у снежні мінулага года. Абодва душпастары займуцца падрыхтоўкай XX Сустрэчы моладзі, якая адбудзецца на Ледніцкіх палях 4 чэрвеня. Юбілей "Ледніцы" будзе спалучаны са святкаваннем 1050-годдзя хросту Польшчы і 800-годдзя дамініканцаў. Сустрэчы на працягу 19 гадоў сабралі разам звыш 1,8 млн маладых удзельнікаў з Польшчы і ўсяго свету.*

*credo-ua.org; gosc.pl; niedziela.pl*

***Ангеліна Пакачайла***



# Не дайце сябе падмануць!

*Астралогія ўжо не першы год з'яўляецца адным з найбольш распаўсюджаных элементаў сучаснай культуры. Паводле статыстыкі, 55% палякаў чытаюць гараскопы і 46% сцвярджаюць, што сур'ёзна ставяцца да той інфармацыі, якая там падаецца, кіруюцца ёй у сваім жыцці. У Расіі 52% насельніцтва цікавяцца прадказаннямі астролагаў. У Беларусі лічбы тых, хто захапляецца гараскопамі, прыкладна такія ж. А попыт, як кажуць, нараджае прапанову, таму большасць друкаваных выданняў пакідае на сваіх старонках месца для "парад зорак", многія тэлеканалы і радыёстанцыі не шкадуюць эфірнага часу, каб распавесці, што чакае ў бліжэйшы час "стральцоў", "блізнят", "ільвоў" і г.д.*

● *працяг са с. 1*

## Адной нагой у пячоры

Чаму ў XXI стагоддзі, калі навука і тэхналогіі дасягнулі высокага развіцця, гараскопы карыстаюцца такой папулярнасцю, што некаторыя людзі не ўяўляюць без іх свайго жыцця? Раней лічылася, што астралогію, нумералогію, рознага кшталту варажбу практыкуюць неадукаваныя людзі, якія такім чынам спрабуюць тлумачыць сабе тое, чаго не разумеюць. Сёння ж здараецца так, што чалавек, які мае вышэйшую адукацыю, а часам і не адну, пачынае свой тыдзень "чытвом", дзе зоркі яму нешта прадказваюць і прапануюць. Вельмі слушна пра гэты парадокс сказаў доктар Рафал Вішнеўскі, сацыёлаг з універсітэта кардынала Стэфана Вышынскага: "Чалавек XXI стагоддзя адной нагой стаіць на Месяцы, а другую ўсё яшчэ трымае ў пячоры. Вядома, людзі, якія звяртаюцца да гараскопаў, сцвярджаюць, што не трактуюць іх сур'ёзна, бо адносяць сябе да людзей рэлігійных. Але чаму ж многія з іх тады вешаюць каля крыжа падкову на шчасце, чаму чытаюць Евангелле, а пасля гараскоп на бліжэйшы тыдзень?". Д-р Вішнеўскі тлумачыць, у чым крыецца феномен папулярнасці астралагічных прагнозаў. Навукоўцы называюць яго "эфектам гараскопа" ці "эфектам Барнума". Ён заключаецца ў тым, што некаторым людзям падаюцца трапнымі апісанні іх уласнай асабовасці, а на самой справе гэта агульныя характарыстыкі, якія ўласцівы вялікай групе людзей. І чым больш абагулена падаецца інфармацыя ў гараскопах, тым больш людзей успрымае яе як праўдзівую.

Часам здараюцца сітуацыі, калі асоба, якая верыць у гараскопы, пачынае такім чынам будаваць сваё жыццё, так перайначваць свае дзеянні, каб адпавядаць таму, што напісана ў прагнозе астролага. Аднак самае смешнае, як зазначае Вішнеўскі, што інфармацыя, якая пададзена ў гараскопах, з большага не мае нічога агульнага з зоркамі, планетамі, нейкімі астралагічнымі вылічэннямі, а банальна залежыць ад настрою і гумару журналіста, які адказвае за гэтую тэму ў рэдакцыі.

## Чаму Касцёл асуджае гараскопы?

"Немагчыма суаднесці з каталіцкай верай спадзяванне на тое, што лёс чалавека залежыць ад зорак або ад іншых нябесных сіл. Гараскопы проста спекулююць на чалавечай цікаўнасці, на жаданні даведацца аб тым, што чакае ў будучыні, – зазначыў у адным са сваіх пастарскіх лістоў кс. бп Аляксандр Кашкевіч. – Часта вера ў гараскопы становіцца падмуркам для новага язычніцкага руху, вызнаўцы якога гавораць пра касмічную энергію, практыкуюць варажбу, выклікаюць духаў. Яны вераць у перасяленне душ і іншыя рэчы, якія супярэчаць хрысціянскай веры. Гэты рух, які называюць яшчэ светапоглядам «новага веку», з'яўляецца мешанінай будызму, індуізму і прымітыўнага язычніцтва. Яго паслядоўнікі часта выкарыстоўваюць хрысціянскія паняцці, надаючы ім іншы сэнс. Такая дактрына, якая настойліва прапагандуецца некаторымі сродкамі масавай інфармацыі, пярэчыць вучэнню Касцёла", – падкрэсліў іерарх.

Напэўна, цяжка будзе спрачацца з выказваннем, што кожны, хто чытае гараскопы і ў іх верыць, лічыць Хрыста падманшчыкам, і наадварот, кожны, хто лічыць, што Езус – гэта Праўда, будзе адносіцца да гараскопаў як да хлусні. Чаму? Паводле Евангелля, нават валасы на нашай галаве ўжо палічаныя, і нічога без волі Айца не можа з намі здарыцца, таму альбо веру ў Божы Провід, у тое, што праз малітву і працу над сабой магу выпрасіць для сябе і іншых патрэбныя ласкі, альбо веру ў тое, што Пан тут увогуле ні пры чым, а будучыня залежыць выключна ад таго, як сышліся зоркі. Адно з другім не мае нічога агульнага, таму вера ў гараскопы – гэта злачынства супраць веры ў Бога.

Катэхізіс Каталіцкага Касцёла асуджае астралогію, падкрэсліваючы, што яна супярэчыць веры ў абсалютнае панаванне Бога над нашым жыццём. "Зварот да гараскопаў, астралогіі, хірамантыі, тлумачэння знакаў і лёсаў, феномена прадбачэння, зварот да медыумаў хаваюць за сабой жаданне атрымаць уладу над часам, над гісторыяй, і ў канчатковым рахунку над чалавекам, і адначасова імкненне зрабіць блізкімі сабе нейкія акультныя сілы", – гаворыцца ў Катэхізісе. Адначасова адзначаецца, што "Бог можа адкрыць будучыню сваім прарокам ці іншым святым. Тым не менш, справядлівыя хрысціянскія паводзіны заключаюцца ў тым, каб з даверам аддаваць сябе ў рукі Провіду ў тым, што тычыцца будучыні, і адмовіцца ад усялякай нездаровай цікаўнасці з гэтай нагоды".

**Не зоркі кіруюць светам, але добры Бог, які ўсё стварыў і паслаў свайго Сына, каб збавіў свет. І тое, што мы павінны ведаць пра будучыню свету і чалавецтва, Бог аб'явіў нам праз свайго Сына Езуса. Ці шмат Хрыстос нам сказаў пра гэта? Нямнога і нямала – а роўна столькі, колькі нам неабходна ведаць.**

**А калі Цябе, дарагі Чытач, нехта запытае, пад якім знакам задыяку Ты нарадзіўся, не прамаўляй доўгіх натацый на гэтую тэму, а проста скажы: "Пад знакам Крыжа. А ты?".**

***Кінга Красіцкая***

# Каталік і вера ў гараскопы



***Кс. Ян Раманоўскі***

*Сёння вельмі часта, на жаль, можна сустрэць людзей, якія лічаць сябе хрысціянамі, каталікамі, кажуць, што не прывязаны да гараскопаў, але часам чытаюць іх проста так, таму што няма чым заняцца, і некаторыя напісаныя там рэчы ўспрымаюць за праўду. Як жа быць у такой сітуацыі? Як увогуле хрысціянін католік павінен адносіцца да гараскопаў і да ўсяго таго, што з імі звязана?*

*Гараскопы самі па сабе з'яўляюцца часткай астралогіі, якую яе прыхільнікі часта называюць навукай. Аднак на самой справе яна не мае нічога агульнага з навукай і з агульнымі метадамі, характэрнымі для розных навук. Нават некаторыя вядомыя энцыклапедыі (нп. Encyclopaedia Britannica) называюць астралогію магічнай практыкай, заснаванай на метадах, якія супярэчаць навуковым. Трэба заўсёды памятаць, што астралогія і астраномія – гэта не адно і тое ж. Галоўная задача астралогіі – назіранне за небам, зоркамі, нябеснымі целамі і жаданне растлумачыць іх уздзеянне на жыццё канкрэтнага чалавека. Паводле гісторыі, гэтая тэорыя з'явілася ў старажытнававілонскай традыцыі і была сцісла звязана з язычніцтвам. Астролагі ясна і канкрэтна гаварылі аб тым, што жыццё кожнага чалавека залежыць ад таго, пад якім знакам задыяка ён нарадзіўся, і ад месца знаходжання нябесных цел у гэты момант. Таму сёння таксама пры дапамозе гараскопаў, якія складваюцца ў залежнасці ад знаходжання зорак на небе, нам хочуць адкрыць нашу будучыню, тое, што нас чакае і што мы павінны рабіць, каб дасягнуць нечага ў сваім жыцці.*

*З аднаго боку, напэўна, трэба згадзіцца, што нашае жыццё залежыць ад некаторых нябесных цел, напрыклад, ад Сонца і Месяца. Бо калі б Сонца перастала перадаваць сваё цяпло альбо ўвогуле пагасла, жыццё на планеце Зямля знікла б. Ці калі б, напрыклад, на нашу планету ўпаў вялікі астэроід, несумненна здарылася б катастрофа. Але цяжка ўявіць, як размяшчэнне зорак на небе можа паўплываць на наша асабістае жыццё, на адносіны з блізкімі людзьмі, на наша матэрыяльнае становішча ці на тое, што хтосьці сустрэне жыццёвы поспех або нават – ці ж не абсурд – будучага сужэнца. Калі астралогія сцвярджае залежнасць чалавечага лёсу ад зорак і планет, то што будзе з усёй астралагічнай тэорыяй, калі інфармацыя аб нядаўнім адкрыцці навукоўцамі новай планеты ў сонечнай сістэме будзе пацверджана на сто працэнтаў? Ці будуць прызнаны няпраўдзівымі ўсе напісаныя дагэтуль гараскопы, якія не бралі пад увагу гэтай планеты? Альбо будзе прыдумана іншае апраўданне?*

*Можа здавацца, што ў гараскопах няма нічога супярэчлівага з нашай верай. Але на самой справе яны супярэчаць, у першую чаргу, таму, што Бог стварыў нас свабоднымі і даў магчымасць свабодна выбіраць. Згодна з астралогіяй, наша жыццё залежыць не ад Даўцы жыцця, а ад знаходжання зорак на небе і знака задыяка. Астралагічныя практыкі, у тым ліку і гараскопы, не маюць нічога агульнага з хрысціянствам і выраслі з язычніцтва. Менавіта ў гэты момант трэба задаць сабе пытанне: "Кім я на самой справе з'яўляюся?". Бо нельга быць хрысціянінам толькі ў некаторых справах, а ў іншых быць кімсьці іншым. Прыгадваюцца словы з Кнігі Апакаліпсіса св. Яна: "Ведаю твае справы: ты ні халодны, ні гарачы. О, калі б ты быў халодны ці гарачы! Але таму, што ты цёплы, а не гарачы і не халодны, выплюну цябе з вуснаў Маіх" (Ап 3, 15–16).*

*Пацвярджэнне нязгоднасці астралогіі з верай у Бога мы можам знайсці ўва многіх фрагментах Святога Пісання. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на фрагмент са Старога Запавету, дзе чытаем: "Ты стомлена мноствам дарадчыкаў тваіх: няхай жа выступяць назіральнікі нябёс і звездары, і прадказальнікі па маладзіках, і ўратуюць цябе ад таго, што мае прыпасці табе. Вось яны, як салома: агонь спаліў іх. Не збавілі душы сваёй ад полымя; не засталося вугалю, каб пагрэцца, ні агню, каб пасядзець каля яго. Такімі зрабіліся табе тыя, з кім ты працавала, з кім вяла гандаль з маладосці тваёй. Кожны пайшоў у свой бок, ніхто не ратуе цябе" (Іс 47, 13–15). На гэтую тэму выказваліся таксама Айцы Касцёла. Вельмі ясна гаворыць аб гэтым св. Аўгусцін: "Сядзяць і лічаць зоркі, прасторы, бег, абароты, вывучаюць рухі, апісваюць, робяць вывады. Здаюцца вялікімі вучонымі. Уся гэтая вялікасць і вучонасць – гэта абарона граху. Будзеш чужаложцам, бо такая твая Венера; будзеш забойцам, бо такі ў цябе Марс. Да таго ж, забойцам з'яўляецца твой Марс, а не ты. Венера чужаложыць, а не ты. Глядзі ж, каб ты не быў асуджаны замест Марса ці Венеры" (Св. Аўгусцін, Enarrationes in Psalmos, 140, 9).*

*Важна не забывацца, што кожны з нас сам выбірае, у якім кірунку пайсці: далей думаць, што наша жыццё залежыць ад таго, пад якім знакам мы нарадзіліся, ці памятаць аб тым, што толькі Бог даў нам жыццё і паслаў Свайго Сына, які з'яўляецца Дарогай, Праўдай і Жыццём. Трэба быць альбо гарачым, альбо халодным (параўн. Ап 3, 15–16).*



## I частка

**А. д-р Андрэй Шчупал CSsR**

# Рахунак сумлення

**У папярэдніх нумарах "Слова Жыцця" мы разважалі аб устанаўленні Хрыстом сакраманту пакаяння і паяднання, а таксама аб вялікіх ласках, якія выплываюць з гэтага сакраманту. Аднак, каб добра і як мага больш плённа выкарыстаць крыніцу Божай міласэрнасці, з боку чалавека абавязкова павінна прысутнічаць адпаведная падрыхтоўка. Давайце ўявім сабе чалавека, які, магчыма, пасля доўгіх гадоў жыцця без Бога прыходзіць да споведзі непадрыхтаваным і гаворыць на пачатку, напрыклад, такія словы: "Я не быў у споведзі ўжо 25 гадоў і мне няма з чаго спавядацца, бо я не маю ніводнага граху". Святы апостал Ян тлумачыць: "Калі кажам, што не маем граху, ашукваем саміх сябе, і няма ў нас праўды" (1 Ян 1, 8). Перакананасць у адсутнасці граху з'яўляецца знакам дэфармацыі сумлення і адыходу ад Бога. Не дзіўна, што такая споведзь не прынясе ніякай карысці без адпаведнай дапамогі святара, які ля кратак канфесіянала павінен прысвяціць шмат часу на падрыхтоўку такога пэнітэнта.**

### Дык якім жа чынам мы павінны падрыхтавацца да споведзі?

Усе мы, напэўна, памятаем час падрыхтоўкі да першай споведзі, калі нам казалі пра пяць умоў, неабходных для добрай споведзі. Мы ведаем іх на памяць: гэта рахунак сумлення, жаль за грахі, цвёрдае пастанаўленне выправіцца, шчырая споведзь і выкананне прызначанай пакуты. Без уліку гэтых умоў наша споведзь не прынясе плёну і, больш таго, яна будзе несапраўднай.

Давайце сёння паразважаем над першай з гэтых умоў – рахункам сумлення. Ужо само паняцце "рахунак сумлення" абуджае ў чалавеку нейкае нежаданне, бо атаясамліваецца з матэматычным спосабам акрэслівання сваёй душы. Але гэта не так. Рахунак сумлення – гэта шчырая рэвізія сваіх паводзін у прысутнасці Бога, перад Яго абліччам у атмасферы сыноўняй любові. Таму перад рахункам сумлення неабходна памаліцца, звярнуцца з просьбай аб дапамозе да Святога Духа, да Найсвяцейшай Маці.

Адна толькі сканцэнтраванасць на сабе, без спасылкі на Бога і на Яго любоў, можа стаць прычынай узмацнення прэтэнзій да сябе, самакатавання, дэпрэсіі і роспачы, знеахвочвання і лёгкага апраўдання сваіх грэшных учынкаў. Такі чалавек баіцца глыбей зазірнуць у сваё жыццё, поўнасцю стаць у праўдзе перад Богам, убачыць, якія вялікія раны пакінулі ўчыненыя ім грахі. У яго выпрацоўваецца пэўны адпор супраць цяжкасці і болю самапазнання, супраць нежаданых унутраных перамены. Тады дарослы чалавек паўтарае па прывычцы з дзіцячых гадоў, што, напрыклад, не слухаўся маму (калі маме 95 гадоў, а яму 75), не згаварыў пацеры (замест таго, каб сказаць штосьці большае пра сваю малітву, ён спосаб і матывы) і да т.п.

Трэба таксама ўсведамляць, што падчас рахунку сумлення ўключаюцца розныя абаронныя механізмы, якія не хочуць дапускаць пазнання цэлай праўды аб сабе. Адным з іх з'яўляецца механізм праекцыі – перакладвання сваёй адказнасці за грахі на іншых людзей. Мы можам заўважыць гэты механізм у біблійным апісанні граху першых бацькоў – Адама і Евы. Ева абвінавачвае вужа, што гэта ён падмануў яе, а Адам скідвае віну на Еву і нават на Бога: "Жанчына, якую Ты даў мне, яна дала мне" (Быц 3, 12). Такім чынам, рахунак сумлення трэба праводзіць адносна сваіх грахоў. Мы не маем ніякага права лічыць чужыя грахі: брата, сястры, мужа, нявесткі, цешчы і г.д.

• Працяг у наступным нумары

# Апастальства Божай міласэрнасці

***Амаль 20 гадоў таму быў заснаваны Таварыства апосталаў Божай міласэрнасці. Да чаго імкнуцца яго ўдзельнікі? Хто можа далучыцца да супольнасці?***

***З нагоды 90-годдзя з дня нараджэння святой сястры Фаўстыны мітрапаліт Кракаўскі арцыбіскуп кардынал Францішак Махарскі адрасаваў Кангрэгацыі, да якой належала святая, ліст. У ім ён выказаў думку аб стварэнні арганізацыі, якая б дала магчымасць людзям, што не адносяцца да Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці, удзельнічаць пад яе кіраўніцтвам у ажыццяўленні місіі святой сястры Фаўстыны. Менш чым праз год, 6 сакавіка 1996 года, па просьбе Генеральнай ігуменні маці Паўліны Сломкі кардынал Махарскі заснаваў Таварыства апосталаў Божай міласэрнасці "Faustinum" з цэнтрам у санктуарыі ў Кракаве-Лагеўніках. Прысвоіў апостальству юрыдычны статус рэлігійнай арганізацыі і зацвердзіў яго статут.***

Галоўнай задачай таварыства з'яўляецца фармацыя яго ўдзельнікаў, накіраваная на паглыбленне таямніцы міласэрнай любові Бога да чалавека і міласэрнасці ў агульначалавечых адносінах. Апосталы павінны імкнуцца выкарыстоўваць любую магчымасць, каб заўсёды і ўсюды абвяшчаць міласэрную любоў Бога праз справу, слова і малітву, станавіцца ініцыятарамі канкрэтных спраў міласэрнасці альбо ўключацца ва ўжо існуючыя. Акрамя ўсяго, яны мусяць служыць малітвай, просячы Божай міласэрнасці для ўсяго свету.

Таварыства "Faustinum" яднае святароў, кансэкраваных асоб і свецкіх вернікаў. Спачатку ў якасці валанцёраў, а затым і членаў таварыства.

Валанцёры "Faustinum" прымаюць на сябе мінімальныя абавязацельствы як хрысціяне: клапаціцца аб пазнанні таямніцы Божай міласэрнасці, развіваць у сабе спадзяванне, якое выяўляецца ў выкананні Божай волі, здзяйсняць на працягу дня хоць адзін добры ўчынак міласэрнай любові да Езуса, маліцца Вяночкам да Божай міласэрнасці. Каб стаць валанцёрам "Faustinum", неабходна запоўніць спецыяльную дэкларацыю і выслаць яе на адрас таварыства. Старшыня "Faustinum" падпісвае ліст, тым самым пацвярджаючы прынцяце ў супольнасць.

Пасля праходжання гадавога валанцёрскага тэрміну можна застацца ў "Faustinum" у якасці валанцёра або падаць заяўку на ўступленне ў членства. Члены таварыства глыбей пранікаюць у духоўнасць і апостальскую місію святой сястры Фаўстыны, становячыся блізкімі супрацоўнікамі Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці. У іх абавязкі ўваходзіць: рэгулярнае прыняцце святых сакрамантаў, клопат аб развіцці ў сабе жыццёвай пазіцыі спадзявання на Бога і міласэрнасці ў адносінах да блізкіх, шанаванне Божай міласэрнасці ў формах, перададзеных Хрыстом праз святую сястру Фаўстыну, а таксама падпарадкаванне статуту, правілам і пастановам таварыства.

Уступленне ў членства абавязвае праходжанне пачатковай фармацыі, якая абапіраецца на рэкалекцыі і доўжыцца чатыры гады. Складаецца з трох цыклаў: біблейскага, унутранага духоўнага жыцця, а таксама духоўнасці і місіі святой сястры Фаўстыны. Заканчваецца пісьмовым тэстам. Станоўчая адзнака дае права насіць значок "Faustinum" і ўдзельнічаць у пастаяннай фармацыі Таварыства апосталаў Божай міласэрнасці.

Фармацыя ажыццяўляецца ў групах і індывідуальна пад кіраўніцтвам Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці і пад духоўным кіраўніцтвам святароў Таварыства Езуса. Там, дзе няма сясцёр Кангрэгацыі Маці Божай Міласэрнасці, за фармацыю адказваюць святары, якія абавязваюцца весці яе ў адпаведнасці з праграмай, распрацаванай у таварыстве. Лепшаму засваенню фармацыйнага працэсу дапамагаюць кніжныя публікацыі выдавецтва "Misericordia" і штоквартальны часопіс "Пасланне Міласэрнасці" – друкаваны орган "Faustinum".

Таварыства падтрымлівае кантакты з рознымі суполкамі, складнікамі Апостальства Божай міласэрнасці ва ўсім свеце. Арганізоўвае нацыянальныя і міжнародныя кангрэсы, сімпозіумы, з'езды і сустрэчы апосталаў Божай міласэрнасці. Па меры магчымасці і неабходнасці, ладзіць пілігрымкі, асабліва ў месцы, звязаныя з жыццём і місіяй святой сястры Фаўстыны. Члены і валанцёры "Faustinum" з'язджаюцца падчас штогадовых дзён засяроджання, пастаянных падчас Адвэнту і Вялікага посту, а таксама ў дні засяроджання асобных абшчын, якія дзейнічаюць у парафіях або Дамах Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці. Удзельнікі таварыства сустракаюцца таксама і з іншых нагод – для адпачынку і зносін.

Паколькі "Faustinum" валодае касцёльнай правасдольнасцю, таварыства можа стварaць свае абшчыны не толькі пры Дамах Кангрэгацыі, але і ў парафіях. Каб гэта зрабіць, пробашчу неабходна атрымаць згоду ад біскупа ардынарыя і напісаць просьбу да кіраўніцтва. У парафіі павінны існаваць умовы для ажыццяўлення фармацыі, а таксама налічвацца не менш за 10 членаў апостальства (не валанцёраў). Да афіцыйнай установы таварыства "Faustinum" у парафіі дзейнічае фармацыя, якую вядзе адказны за яе святар.

**ЦІКАВА**

**"Faustinum" з'яўляецца той "новай кангрэгацыяй", якую святая сястра Фаўстына, паводле жадання Езуса, павінна была заснаваць. Больш за сто гадоў да стварэння Апостальства Божай міласэрнасці Марыя Францыска Казлоўская (у манастве Фелікса) заснавала ў Плоцку жаночую манаскую кангрэгацыю мар'явітак ад лац. "Mariae vita" – жыццё Марыі. Манахіня мела такія ж бачанні, як і сястра Фаўстына. З-за недакладнага распазнання волі Бога і адсутнасці пакоры ў душы, кангрэгацыя спачатку была распушчана, а затым і ўвогуле адлучана ад каталіцкага касцёла. Сёння колькасць членаў гэтага руху паступова скарачаецца.**

*Ангеліна Пакачайла*




***Рым пратэстуе***

***Сотні тысяч асоб прынялі ўдзел у дэманстрацыі на вуліцах сталіцы Італіі супраць легалізацыі гомасексуальных саюзаў.***

*Дэманстрацыя арганізавана ў межах "Family Day". На транспарантах удзельнікаў размясціліся, сярод іншых, дэвізы: "Зло застаецца злом, нават калі яно ўзаконена" і "Не гомасексуальным «сужэнствам»". Аднак арганізатары падкрэслілі, што іх мэта – не выступленне супраць кагосьці, а абарона сям'і.*

*У пратэсце таксама прынялі ўдзел прадстаўнікі італьянскіх дыяцэзій. Дэманстранты патрабавалі адхілення законапраекта, які легалізуе гомасексуальныя саюзы разам з прызнаннем права на ўсынаўленне імі дзяцей, што ў гэтыя дні і абмяркоўвае італьянскі Сенат. Супраць гэтага выказваецца большасць італьянцаў.*




***15 тысяч камплектаў літургічнай вопраткі для СДМ-2016***

***Прыблізна такая колькасць камплектаў літургічнай вопраткі святароў рыхтуецца да галоўнай літургічнай падзеі Сусветных дзён моладзі ў Кракаве – Святой Імшы Паслання, якую 31 ліпеня 2016 года на "Campus Misericordiae" ўзначаліць папа Францішак.***

*Літургічная вопратка біскупаў і святароў сваёй сімволікай будзе спасылацца на Сусветныя дні моладзі ў Кракаве. Іх колькасць і выразнасць, безумоўна, паўплываюць на гэтае вялікае свята Паўсюднага Касцёла.*

*Праект арната падрыхтаваны спецыяльна для Святой Імшы Паслання з папам Францішкам і будзе прадстаўлены непасрэдна падчас яе. Пасля Эўхарыстыі кожны біскуп і святар будзе мець магчымасць забраць яго ў якасці ўспаміну пра Сусветныя дні моладзі ў Кракаве.*




***Францішак разашле місіянераў міласэрнасці***

***Здзейсніць гэта падчас св. Імшы ў Ватыкане 10 лютага.***

*Місіянерамі міласэрнасці будуць святары, якіх прызначыць сам Папа, а не біскупы, даручаючы ім заданне абвяшчаць прыгажосць Божай міласэрнасці і быць пакорнымі і мудрымі спаведнікамі, здольнымі ўдзяліць прабачэнне ўсім, хто прыдзе пасвядзаецца. Па цэлым свеце будуць накіраваны больш за 1000 місіянераў, якія паходзяць з усіх кантынентаў. Сярод іх будуць і каталіцкія святары ўсходніх абрадаў. Колькасць жадаючых была вялікай, але трэба было абмежаваць яе, каб "паказаць асаблівы знак, у якім выражаецца выключнасць гэтай падзеі".*

*Кінга Красіцкая*

## Хор з Крамяніцы наведаў дом сацыяльнай дапамогі

*Харысты з парафіі Божага Цела выступілі з праграмай “Каляды” ў вёсцы Мадзейкі.*



Канцэрт пачаўся пасля святой Імшы, на якую кожны месяц збіраюцца не толькі жыхары сацыяльнага дома, але і мясцовыя вернікі.

“Выступленне рыхтавалі шчыра, з усёю адказнасцю, бо ведалі, што нас там чакаюць. Хацелася падзяліцца радасцю Божага Нараджэння, каб кожны адчуў святочны настрой і блізкасць Бога”, – распавяла ўдзельніца хору Леанарда Вановіч.

## Кс. бп Юзаф Станеўскі наведаў парафію ў Квасоўцы

*Пробашч парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі кс. Тадэвуш Крыштопік запрасіў біскупа наведаць тэатральную праграму, падрыхтаваную мясцовымі парафіянамі.*



Тэатралізаванаму прадстаўленню папярэднічала святая Імша, якую біскуп цэлебраваў у інтэнцыі ўсёй парафіі на чале з яе душпастырам.

У гаміліі іерарх падкрэсліў важнасць передачы веры – каштоўнага дару, які атрымлівае кожны чалавек. Біскуп Юзаф зазначыў, што святочны час з'яўляецца чарговай нагодай для таго, каб падзяліцца верай і выхаваннем прыгожых традыцый хрысціянства.

Пасля св. Імшы ў мясцовым клубе прайшло музычна-тэатральнае прадстаўленне. Праз спевы і разважанні акцёры вярнулі атмасферу калядных свят і заахвоцілі прысутных запрасіць Хрыста ў сваё жыццё.

## У Дзятлаве прайшоў “Мядовы фэст”

*Урачыстасць ў парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі пачалася вячэрняй святой Імшой, якую ўзначаліў рэгіянальны настаяцель Каталіцкай Місіі “Таварыства св. Францішка Сальскага” кс. Віктар Гайдукевіч SDB.*



Пасля набажэнства дзеці і моладзь араторыя імя бласлаўлёных мучанікаў з Познані прадставілі парафіянам і ўсім прысутным святочную праграму “Сям'я – крыніца шчасця”, падчас якой было падкрэслена, што прыкладам у фарміраванні культуры сямейных адносін з'яўляецца Святая Сям'я.

Працягам святочнага дня стала дзяленне аплаткай і “Мядовы фэст” у араторыі, падчас якога госці маглі пакаштаваць стравы з мёду і іншыя прысмакі. Назва фэсту вынікае з успаміну св. Францішка Сальскага, апекуна салезіянскага таварыства, якога традыцыя Касцёла называе доктарам любові і слодычы.

## Ансамбль “Oremus” атрымаў гран-пры на фестывалі ў Іўі

*XIII Фестываль калядных песень “Gloria in Excelsis Deo”, які праходзіў у гарадскім Доме культуры, сабраў каля 200 удзельнікаў з розных парафій Іўеўскага дэканата. Ганаровымі гасцямі свята сталі біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі і прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса.*




Адкрыццю фестывалю папярэднічала святая Імша ў касцёле святых апосталаў Пятра і Паўла, якую ўзначаліў біскуп Юрый Касабуцкі. Іерарх заклікаў удзельнікаў фестывалю, асабліва дзяцей і моладзь, захаваць святочныя традыцыі, звязаныя са святамі Божага Нараджэння. Іерарх пажадаў, каб спеў калядак і пастаралак напаўняў іх сэрцы радасцю і любоўю да Бога і бліжніх.

Падчас конкурснай праграмы кожны артыст дэманстраваў свае таленты і здольнасці, таму не дзіўна, што журы было няпроста вызначыць пераможцаў. Усе ўдзельнікі атрымалі сувеніры і каштоўныя падарункі. Найбольшую сімпатыю журы заваяваў ансамбль “Oremus” з Іўя, які і атрымаў гран-пры.

Завяршыўся XIII Дэканальны фестываль калядак і пастаралак выкананнем супольнай песні.

## У гродзенскай катэдры памаліліся за супрацоўнікаў СМІ

*24 студзеня каталіцкі Касцёл успамінаў Францішка Сальскага, біскупа і доктара Касцёла, які з'яўляецца апекуном пісьменнікаў, рэдактараў і журналістаў.*



З гэтай нагоды ў гродзенскім касцёле імя св. Францішка Ксаверыя цэлебравалася св. Імша ў інтэнцыі ўсіх супрацоўнікаў СМІ Гродзенскай дыяцэзіі. Набажэнства ўзначаліў пробашч катэдры кс. Ян Кучынскі.

Святар наблізіў прысутным біяграфію св. Францішка Сальскага і пажадаў усім супрацоўнікам сродкаў масавай інфармацыі адвагі духа прадстаўляць усё такім, якім яно з'яўляецца ў рэчаіснасці.

Напрыканцы св. Імшы вернікі памаліліся ў інтэнцыі супрацоўнікаў сродкаў масавай інфармацыі, просячы аб неабходных ласках для іх.

## Бп Юзаф Станеўскі адзначыў другую гадавіну біскупскага пасвячэння

*31 студзеня іерарх наведаў парафію ў Заневічах, дзе ў касцёле Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Язафата цэлебраваў св. Імшу падзякі ў інтэнцыі ўсіх тых, хто перадаў яму веру і навучыў любіць Пана Бога і людзей.*



У гаміліі кс. бп Юзаф заахвоціў прысутных да далейшага трывання ў веры, а таксама да малітвы ў інтэнцыі дзяцей і ўнукаў, каб у сённяшнім секулярызаваным свеце яны былі сапраўднымі сведкамі і актыўнымі нашчадкамі хрысціянскіх каранёў.

У гэты дзень іерарх таксама наведаў суседнюю парафію Імя Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Яна Непамука ў Вялікіх Эйсмантах, з якой звязаны карані яго бацькоў. Там біскуп маліўся таксама за свайго былога пробашча кс. Юзафа Мацяеўскага, пахаванага на мясцовых могілках, які ўдзяляў будучаму іерарху сакрамант хросту.

## У гродзенскай катэдры маліліся аб еднасці хрысціян

*У межах Тыдня малітвы аб еднасці хрысціян у Гродне адбылося экуменічнае набажэнства, якое ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.*



Падчас літургіі з кароткай прамовай да вернікаў звярнуліся прысутныя прадстаўнікі розных канфесій.

Прадстаўнік епіскапа Гродзенскага і Ваўкавыскага Арцемія протаіерэй Аляксандр Хомбак, настаяцель храма св. Лукі ў Гродне, які прадстаўляў праваслаўную Царкву, адзначыў, што хрысціянства – гэта рэлігія радасці. “Радасць у тым, што мы можам пазнаваць Таго, хто ёсць сама радасць, сам свет, само дабро – нашага Госпада. Таксама ўся наша вера, з нябеснай прыгажосцю яе абрадаў, традыцыямі – суцэльная радасць”, – адзначыў святар.

Дыякан Юрый Лабоцкі з Евангелічна-лютэранскай супольнасці звярнуў увагу на тое, што сёння супольнае сведчанне веры мае вялікую вагу, таму “мы павінны адзіным голасам выказвацца па пытаннях маралі, абараняць сямейныя каштоўнасці”.

Айцец Андрэй Крот з Грэка-каталіцкай Царквы разважаў над дэвізам сёлетняга Тыдня малітвы аб еднасці хрысціян – “Пакліканыя, каб абвяшчаць вялікія справы Пана” (параўн. 1 П 2, 9). А. Андрэй падкрэсліў, што наша вера, наша еднасць з Хрыстом нясе гэтаму свету святло і прыгажосць. “Аднак яны не з'яўляюцца ўласнасцю нейкай адной канфесіі, кожная хрысціянская супольнасць мае гэтыя знакі, тыя вялікія справы Пана, якія можа абвяшчаць”, – сказаў а. Андрэй Крот.

У сваю чаргу кс. бп Юзаф Станеўскі ў сваім слове адзначыў, што Хрыстос запрашае ўсіх хрысціян на гару, там лепш відаць: убогіх духам і засмучаных, лагодных і справядлівых, міласэрных і чыстых, міратворцаў і тых, каго пераследуюць, таму сёння ўсім хрысціянам трэба разам будаваць цывілізацыю любові і разам выступаць адзіным голасам у абароне міру на зямлі.

Падчас літургіі святла прадстаўнікі хрысціянскіх супольнасцей запалілі ад пасхала сімвалічныя свечкі, агонь ад якога перадаваўся ўсім удзельнікам набажэнства, прамовілі малітву “Ойча наш” і перадалі адзін аднаму знак супакою.

На заканчэнне кс. бп Аляксандр Кашкевіч падзякаваў усім за ўдзел у набажэнстве, а таксама заахвоціў да далейшай малітвы аб еднасці хрысціян і міры ў свеце і сем'ях. Іерарх заклікаў даваць добры прыклад праз канкрэтныя ўчынкі і рэалізаваць такім чынам жаданне Хрыста: каб усе былі адно. Гродзенскі ардынарый таксама падкрэсліў, што сёння, калі ўвесь свет ахоплены канфліктамі з прычыны страты фундаментальных прынцыпаў і каштоўнасцей, важным заданнем кожнага верніка з'яўляецца абвяшчэнне сваім словам і жыццём Добрай Навіны.

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Ці можаце Вы сказаць, колькі было святых Евангелістаў?***




*Чарговае апытанне дае нам магчымасць прыгадаць, колькі ёсць Евангелістаў. Большасць рэспандэнтаў адказала правільна, адзначаючы варыянт “чатыры”. Немалы працэнт удзельнікаў апытання сцвярджае, што Евангелістаў дванаццаць. Варта ўзяць у рукі Новы Запавет і яшчэ раз пазнаёміцца з Евангеллем паводле Мацвея, Марка, Лукі і Яна.*

***Вынікі чарговага апытання каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



**Кс. Павел Салабуда**

*Дзеці, рыхтуючыся да Першай св. Камуніі, ужо ведаюць, што існуе чатыры Евангелля, а гэта значыць, што ёсць чатыры Евангелісты. На маю думку, чалавек, які сістэматычна адкрывае дома Новы Запавет, добра ведае, колькі існуе Евангелістаў. Вынікі чарговага апытання ўказваюць на тое, што большасць рэспандэнтаў ведае колькасць Евангелістаў. Але ёсць таксама група людзей, якія адзначылі, што іх было дванаццаць. Хіба, большасць з іх не вельмі ўважліва прачытала пытанне і хутка пазначыла адказ, блытаючы Евангелістаў з Апосталамі. Таму варта яшчэ раз звярнуцца да катэхетычных асноў і чытання Новага Запавету, каб узнавіць у памяці колькасць Евангелістаў.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**9 лютага 2002 г.** – кс. Антоній Рафалка SDB, *проб. Ашмяны;*
**10 лютага 1948 г.** – кс. Раман Паноха, *вік. Радунь;*
**10 лютага 2003 г.** – кс. прэл. Люцыян Вайцехоўскі, *Радам – праф. Гродзенскай ВДС;*
**13 лютага 1959 г.** – кс. Павел Сенкевіч, *ген. вік., проб. Гудагай;*
**15 лютага 1972 г.** – кс. Міхал Шалкевіч, *проб. Тракелі.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




*Хвала Хрысту!*

*Роўна пяць гадоў таму ў газеце "Слова Жыцця" выйшаў першы нумар моладзевай рубрыкі "На скрыжаванні". З гэтай нагоды хочацца падзякаваць усім і кожнаму з Вас асабіста за ўдзел у рэфлексійных спатканнях на моладзевай пляцоўцы. Дзякуючы Вам, рубрыка існуе і развіваецца да сённяшняга дня.*

*Ёсць прапанова паразважаць на тэму пад назвай "На скрыжаванні": што для Вас асабіста значыць гэты выраз, як Вы яго разумееце. Дасылайце свае разважанні ў рэдакцыю. Найбольш цікавыя лісты будуць адзначаны прызамі.*

*У сённяшнім нумары задумаемся пра бескарыслівы дар, задуму стварэння і веліч Усявышняга. Даведаемся, як спазнаваць Божы Дух, дзе ўбачыць праявы розуму Усемагутнага і навошта быць умераным і ашчадным.*

*Наперад з Богам!*


*Ангеліна Пакачайла*

# Разгледзець у стварэнні Божы дотык

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: "Бо з Яго і праз Яго, і для Яго ўсё. Яму хвала навекі. Амэн" (Рым 11, 36).**

Як лаканічна і праўдзіва апостал Павел перадаў думку аб дасканалым сусвеце! У кожным стварэнні – подых Усявышняга. Ён – Валадар усяго існага, Той, каму ўсё падуладна і каго ўсе павінны праслаўляць.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб мы клапаціліся пра створаны свет, які атрымалі як бескарыслівы дар, каб даглядаць і захоўваць яго для будучых пакаленняў**

Свет – найкаштоўнейшы дар, які мы атрымалі ў спадчыну ад Бога. І толькі ад нас залежыць, у якім выглядзе яго ўбачаць наступныя пакаленні. Варта ставіцца да навакольнага свету ўважліва і ашчадна, не быць эгаістам і думаць пра перспектыву.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: сусвет**

Уважлівы чалавек не перастае здзіўляцца прыгажосці, складанасці і разнастайнасці навакольнага свету. Веруючы паўсюль бачыць праявы Боскага розуму. Больш за тое, Ён верыць, што Усемагутны Бог няспынна думае пра сваё стварэнне. А гэта сведчыць аб неабмежаванай сіле і мудрасці Творцы, аб Яго бясконцай велічы. Свет адкрывае нам мажлівасць спазнаваць Дух Божы, неад'емнымі элементамі якога з'яўляюцца міласэрнасць, любоў, усюдыіснасць, вечнасць... Такім чынам, да Бога – праз навакольны свет.

**МЭТА МЕСЯЦА: нанова адкрыць свет**

Гэтым можна займацца бясконца. Нават самыя звычайныя штодзённыя паняцці, падзеі, з'явы маюць бяздонную глыбіню і, у канчатковым рахунку, становяцца неспасціжнымі.

Некаторыя думаюць, што Божая справа недаступная, і нават не варта пра яе разважаць. На гэты конт адметна заўважыў адзін з аўтарытэтных хрысціянскіх філосафаў Кірыл Ерузалемскі: "Няўжо таму, што я не магу выпіць усёй ракі, не буду і ўмерана для карысці маёй браць вады з яе?".

**СПРАВА МЕСЯЦА: разгледзець у стварэнні Божы дотык**

Кожная рэч у свеце згодна з Божай задумай мае сэнс і сваё прызначэнне. Калі не атрымоўваецца гэта ўбачыць, значыць розум яшчэ не гатовы ўспрымаць высокія ісціны. Адштурхнемся ад наглядных прыкладаў навакольнага свету. У маленечкай семечцы канцэнтруецца запас нябачнай энергіі, дастатковай для вырастання гіганцкага дрэва. Кожны зялёны ліст – гэта складаная "фабрыка", якая выпрацоўвае кісларод. Плавальны пузыр рыб – апарат для рэгуляцыі глыбіні пагружэння ў ваду. Соты, якія майструюць пчолы, прызначаны для змяшчэння максімальнай колькасці мёду пры мінімальных затратах будаўнічага матэрыялу. Ці ўсё гэта не дзіўна?

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Без межаў", Віталій Яфрэмачкін**

Выканаўца спявае пра Бога – вялікага, усемагутнага і бязмежнага. "Толькі Ты, Гасподзь, варты глыбокай пашаны", – акцэнтуе ўвагу слухачоў спявак. Ад імя ўсяго стварэння заклікае: "Больш няма ніякіх межаў, з Табой няма ніякіх перашкод". І праз песню з даверам аддае Богу сваё жыццё.

**ВІДЭАРОЛІК МЕСЯЦА: "Дзеці аб стварэнні свету", grodnensis.by**




Другі па ліку ролік з удзелам дзяцей падрыхтаваў партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by. Маладыя вернікі разважаюць аб тым, як Бог стварыў сусвет і навошта нячысты спакушаў першых людзей, хто жыве ў раі і што трэба рабіць, каб туды трапіць. Непасрэдныя, шчырыя дзеці дзесьці прымушаюць усміхнуцца, а дзесьці – сур'ёзна задумацца.

**АСОБА МЕСЯЦА: святы Павел Мікі**



Павел Мікі нарадзіўся ў 1565 годзе ў заможнай сям'і ў Кіота (Японія). Ва ўзросце 5 гадоў быў ахрышчаны. Хадзіў у школу, якой кіравалі езуіты. Праз 17 гадоў адказаў на ласку паклікання і далучыўся да гэтага ордэна. У 1597 годзе рыхтаваўся да прыняцця святарскага пасвячэння. Ужо дагэтуль на працягу некалькіх гадоў працаваў катэхетам, абышоў амаль усю краіну, навучаючы людзей асновам хрысціянскай веры, а таксама апрацаваў асноўны катэхізіс на японскай мове.

Быў арыштаваны ў Кіота і разам з іншымі катаваны. З адрэзанымі вушамі і прычэпленым прыгаворам асуджаных вазілі па вуліцах горада. Убачыўшы натоўпы, што збягаюцца паглядзець, Павел прапаведаваў ім. Нават ужо будучы павешаным на крыжы, ён не перастаў заклікаць сваіх землякоў адрачыся ад памылак паганства. Праследавацелі, не жадаючы слухаць Паўла і баючыся, што яго мучаніцтва можа выклікаць новыя навяртанні, паспяшаліся забіць яго, прабіваючы цела мучаніка коп'ямі.

Папа Урбан VIII беатыфікаваў мучанікаў з Нагасакі ў 1527 годзе, а папа Пій IX урачыста кананізаваў іх у 1862 годзе. Кроў многіх японскіх мучанікаў і сталасць у веры тых, хто пазбегнуў смерці, паспрыялі таму, што ў 1889 годзе ўлады гэтай краіны дазволілі свабодна вызнаваць каталіцтва. Дзень памяці святога Паўла Мікі – 6 лютага.

***Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў лютым?***

*Св. Ганна (1 лютага), св. Жана (4 лютага), св. Павел (6 лютага), св. Схаластыка (10 лютага), св. Валянцін (14 лютага), св. Даніэль (16 лютага), св. Конрад (19 лютага), св. Пётр (21 лютага), св. Ізабэла (23 лютага), св. Аляксандр (26 лютага).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце ў рэдакцыю або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*

ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ



## Сапоцкінскі дэканат зладзіў свята каляднага спеву

Дэканальны прагляд калядак і пастаралак, які па традыцыі арганізуецца парафіяй Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, прайшоў ужо ў 15-ты раз. Свята сабрала фенаменальную колькасць жадаючых падзяліцца сваім спевам – каля 200 удзельнікаў.

Спявалі для Пана як дзеці і моладзь, так і дарослыя. Упершыню прагляд калядак наведаў семінарыйны гурт "AVE" і кс. Ян Гавэцкі з Іўя, таксама сярод гасцей былі дзіцячыя гурты з розных куткоў Гродзеншчыны.














***Як не памыліцца з выбарам мультфільма для дзіцяці?***

*На аснове дадзенай ніжэй класіфікацыі прыкмет бацькі самастойна могуць вызначыць, шкодны мультфільм для дзіцяці ці не. Наяўнасць адной або некалькіх пералічаных рыс у мультфільме служыць падставай для таго, каб не паказваць гэтага прадукту сваім дзецям.*

*1. Галоўныя героі мультфільма паводзяць сябе агрэсіўна, жорстка, калечаць, забіваюць, прычыняюць шкоду. Прычым усе падрабязнасці гэтага "смакуюцца", нават калі ўсё пададзена пад маскай гумару.*

*2. Дрэнныя паводзіны персанажаў альбо застаюцца непакаранымі, або нават вядуць да паляпшэння іх жыцця: атрымання прызнання, папулярнасці, багацця і г.д.*

*3. У сюжэце дэманструюцца небяспечныя, у выпадку спробы іх паўтарэння ў рэальным жыцці, паводзіны.*

*4. У мультфільме персанажам уласцівы паводзіны, нестандартныя для іх полу: мужчынскія героі паводзяць сябе па-жаночаму, жаночыя – па-мужчынску.*

*5. У сюжэце прысутнічаюць сцэны непаважлівых паводзін у адносінах да людзей, жывёл, раслін. Гэта могуць быць здзек над старасцю, немаглымі, слабасцю, фізічнымі недахопамі, сацыяльнай і матэрыяльнай няроўнасцю.*

*6. Героі фільма несімпатычныя і нават выродлівыя. Для дзіцячага ўспрымання, для больш лёгкай арыентацыі ў тым, хто "дрэнны", а хто "добры", неабходна, каб станоўчы герой быў сімпатычным і знешне прыемным. Тады дзіцяці будзе прасцей зразумець, каго з герояў варта пераймаць, а каго – наадварот.*

*7. У мультфільме культывуецца бяздзейны лад жыцця, прапагандуецца ідэал "жыццё – вечнае свята", палітыка пазбягання цяжкасцей і дасягнення мэт лёгкім шляхам, без працы або нават падманам.*

*8. У сюжэце высмейваецца і паказваецца з падкрэслена непрывабнага боку каштоўнасці сямейных адносін. Галоўныя героі-дзеці канфліктуюць са сваімі бацькамі, якія паказаны недарэчнымі. Героі муж і жонка вядуць сябе ў адносінах адзін да аднаго подла, непаважліва, беспрынцыпова. Прапагандуецца ідэал індывідуалізму і адмовы ад шанавання сямейных і шлюбных традыцый.*

*9. У фільме прысутнічаюць сюжэтныя лініі, якія пагардліва апісваюць усё, што звязана з мацярынствам, нараджэннем і выхаваннем дзяцей. Матчыны вобразы выглядаюць агідна, іх лад жыцця паказаны як недасканалы і непаўнавартасны.*

***Паводле grodnensis.by***

***Дарагі Маленькі Сябар! Мы ведаем, як часам складана маліцца. У галаве вірують розныя думкі, у сэрцы пачынаецца беспарадак. Нават здараецца, што малітва пачынае проста нарваваць! Але ж малітва – гэта нішто іншае, як размова з Кімсьці, хто вельмі Цябе любіць. Ці можа быць штосьці лепшае на свеце, чым такая размова? Ці існуе хтосьці, хто б уважлівей выслухаў Цябе, супакоіў, суцешыў, парадзіў у цяжкасцях, аблегчыў боль? Часам трэба трошкі “пазмагацца” за такую незвычайную размову, а часам, калі Пан Бог бачыць, што Ты зусім згубіўся, то сам прыходзіць Табе на дапамогу. Так, як аднаму хлопчыку...***

# Пецеў ружанец



*Пеця не быў вясёлым хлопцам. Яго выхоўвалі бабуля з дзядулем, таму што бацькоў ён страціў, калі быў яшчэ маленькім дзіцяткам.*

*– Бабуля, што прыносіць табе столькі радасці? – спытаўся аднойчы хлопчык.*

*– Ты і дзядуля.*

*– А чаму?*

*– Бо я вас люблю.*

*– Але ж табе баляць ногі, у цябе хапае праблем са мной і дзядулем, а яшчэ... яшчэ... памерлі мае бацькі...*

*– Гэта праўда. Але калі б я вымушана была сама спраўляцца з усімі гэтымі цяжкасцямі, то, пэўна, не дала б рады.*

*– А хто табе дапамагае?*

*Бабуля не адказала, а толькі з усмешкай дастала з кішэні ружанец. Пеця паціснуў плячыма. Ён бачыў, як бабуля штодзённа сядзіць у крэсле, перабіраючы ў пальцах драўляныя пацеркі. Яго нарвавала гэтая карціна, і ён сам нават не ведаў чаму. Можа, ён злаваўся на Бога за тое, што забраў яго бацькоў? Або не верыў, што Маці Божая выслухоўвае бабулю? Ва ўсякім выпадку, сам ён ніколі не браў у рукі ружанец і, увогуле, усё радзей маліўся.*

*Аднойчы, вяртаючыся са школы, ён вырашыў пабыць трохі ў скверы. Зноў атрымаў дрэнную адзнаку і не хацеў адразу, як прыйдзе дадому, тлумачыць усё дзядулі. Валокся цяпер нага за нагу, падкідваючы дробныя каменьчыкі, якімі была ўсыпана алейка. У пэўную хвіліну трохі большы камень пакаціўся прама пад ногі жанчыне, якая сядзела на лаўцы. Яе твар засланяў капялюш, але і так было відаць, што яна плача. Пеця не ведаў, што яму рабіць: прытварыцца, што спяшаецца? збочыць? падысці?*

*– Падыдзі да мяне, Пеця, – уражаны хлопец пачуў ціхі голас, падобны на той, якім з ім размаўляла мама, калі ён быў яшчэ маленькі. Ён, не вагаючыся, прысеў каля незнаёмкі. Дзесьці ў глыбіні душы хлопец адчуваў, што можа ёй давяраць.*

*– Ах, мой маленькі сыночак, – жанчына прытуліла хлопца. – Павер мне, што твае бацькі побач з табой. Можа, табе цяжка ў гэта паверыць, бо сёння пятніца...*

*– А прычым тут пятніца? – Пеця перастаў шморгаць носам.*

*– У гэты дзень памёр мой Сын.*

*– Не разумею нічога. Ён жа ведае ўсіх людзей.*

*– Менавіта таму Ён і згадзіўся памерці.*

*– Але калі Ён расказаў вам пра мяне, значыць Ён жыве?*

*– Гэта праўда. Але... Пеця, ці ты часам не хацеў бы паспрабаваць адгаворваць Ружанец разам са сваёй бабуляй?*

*– А навошта?*

*– Тады табе лягчэй будзе зразумець тое, пра што я кажу. Праўда. А калі мы зноў сустрэнемся, ты будзеш казаць мне “Мама”.*

*Незнаёмка ўстала і знікла ў каштанавай алейцы. На лаўцы застаўся толькі драўляны ружанец. Пеця нясмела ўзяў у руку гладкія пацеркі. У яго галаве ўсё кружылася ад гэтай дзіўнай і незразумелай размовы. У далоні ён адчуў халодны дотык металічнага крыжыка. Раптам усё здалося яму такім зразумелым, спакойным і ціхім. Ён пабег дамоў і нават не здымаючы чаравікаў сеў каля бабулінага крэсла, узяў яе за руку і ўпершыню пачаў маліцца разам з ёй. Была пятніца. Хлопец паволі перасоўваў пацеркі ружанца, услухоўваючыся ў разважанні аб муках і смерці Пана Езуса. У наступныя дні ён пазнаёміўся з Хвалебнымі, Радаснымі таямніцамі і Таямніцамі святла. Паступова ружанцовая малітва стала яму вельмі блізкай. Гэта была яго размова з Маці Божай, да якой Ён звяртаўся ўжо не інакш, як “мая Мама”.*

*Што ў малітве выклікае ў Цябе найбольш цяжкасцей?*
*Што Ты тады робіш?*
*Хто можа дапамагчы Табе маліцца?*
*Як можна маліцца? Ці толькі адгаворваючы пацеры?*
*Ці адгаворваеш Ты часам Ружанец?*
*Як уяўляеш асобныя таямніцы?*
*Ці змог бы намаляваць іх?*

***Падрыхтавала Кінга Красіцкая***

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, побач будуць зычлівыя людзі, а Божыя ласкі няхай сыходзяць на Вас няспынна. Чэрпайце радасць з кожнай хвіліны, цешцеся сваёй паслугай і заўсёды ўсміхайцеся сабе і людзям навокал. Шчасці Божа!

*Сям’я Кагарка і іх дзеці, в. Навасёлкі*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды Юбілею перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар і намераў, стойкасці, моцы, добрых людзей побач, нязгаснага запалу да працы і Божага бласлаўлення на кожны дзень жыцця.

*Студэнты катэхетычных курсаў пры Аддзеле навучання і выхавання гродзенскай курыі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку**

з нагоды 40-годдзя з дня нараджэння жадаем шмат здароўя, радасці, святла Святога Духа і сталай апекі Панны Марыі. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю, а выконваемая праца прыносіць радасць і бласлаўлёны плён.

*Парафіяне з Андрэеўцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Валянціну Хведуку**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем здароўя, душэўнага супакою, а таксама шмат сіл і стойкасці, каб далей служыць Богу і людзям. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Беліцы*

**Паважанаму Айцу Раману Цесляку**

з нагоды 55-годдзя з дня нараджэння і надыходзячых Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай добры Бог заўсёды дапамагае ў абвяшчэнні Божага слова і пашырэнні Нябеснага Валадарства на зямлі, несучы промень любові і надзеі ўсім, хто сустрэнецца на шляху.

*З малітвай удзячныя парафіяне з Парэчча*

**Каханаму Сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем шмат радасці, шчасця, усмешак. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды апекуецца Табой, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі. Божага бласлаўлення, сілы ў выкананні штодзённых абавязкаў і шчодрага плёну на ніве, на якую паслаў Цябе Пан.

*Мама і тата*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца складаем найлепшыя пажаданні ўсіх Божых ласкаў, Божага бласлаўлення і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны Ваш дзень будзе асаблівы, а побач будуць добрыя і шчырыя людзі, заўсёды гатовыя прыйсці на дапамогу. Няхай Ваш Анёл-ахоўнік заўсёды чувае над Вамі, а Маці Божая ахінае сваім мацярынскім плашчом. Жадаем таксама моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, аптымізму, моцнай непахіснай веры і надзеі. Шчасці Божа!

*Парафіяне з капл. у в. Бакшты Іўеўскага раёна*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды Імянін і 60-годдзя з дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, стойкасці ў душпастарскай працы, апекі Маці Божай, дароў Святога Духа і шмат цудоўных хвілін на святарскім шляху. Няхай Святы Дух пранікне ў глыбіню Вашага сэрца і прынясе радасць і супакой. Дзякуем за распалены агонь веры, адкрытае сэрца і адданую працу на карысць Богу і людзям.

*Вернікі з пар. Новая Руда*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Велівісу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Няхай любячыя рукі Езуса ў цішыні ахінуць Вашае жыццё. Няхай Хрыстовае сэрца пачуе і выслухае кожны шэпт Вашай малітвы і асвеціць кожны момант Вашага жыцця. Жадаем усіх ласкаў і апекі міласэрнай Маці ў здароўі, радасці і вернасці.

*Парафіяне з Путрышкаў*

**Шаноўным Сёстрам Эўхарыі Хульбуй, Чаславе Алешчык, Марыі Раманчук і Алене Крывіцкай**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шчасця, радасці і душэўнага супакою. Няхай Пан Бог заўсёды адорвае Вас добрым здароўем, бласлаўленнем, моцай і стойкасцю, а таксама пасылае на Ваш шлях добрых і зычлівых людзей.

*III Ордэн св. Францішка, Кола Жывога Ружанца з пар. Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Стэцкевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі. Няхай Святы Дух адорвае Вас сваімі дарамі, а Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца Вамі. Мы шчыра дзякуем Вам за ўсю зробленую працу, за мілую ўсмешку, уважлівы падыход да дзяцей і дарослых, за добрае сэрца і любоў да ўсіх нас.

*III Ордэн св. Францішка, касцёльны камітэт і парафіяне з пар. св. Тройцы*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог адорвае Вас здароўем, мудрасцю і ўсімі сваімі ласкамі, а таксама бласлаўляе Ваш святарскі шлях. Святы Дух няхай будзе бясконца шчодрым на свае дары, а Маці Божая Дудская нястомна апекуецца Вамі. Аддзяч, Божа, бацькам за сына святара.

*Парафіяне з касц. Нараджэння НМП у Дудах*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: усіх Божых ласкаў, апекі Маці Божай і св. Заступніка, радасці, душэўнага супакою, добразычлівых людзей побач і стойкасці на дарозе Хрыстовага святарства. Шчасці Божа!

*З малітвай сям’я Заяц*

**Дарагой Сястры Агаце Смольскай**

складаем сардэчныя пажаданні ў дзень Імянін. Мы бязмежна ўдзячны Богу за тое, што запалены промень Божай любові Вы ўкладалі ў сэрцы нашых дзяцей і ўнукаў, што вялі іх да Бога, за ўпэўненасць, супакой і надзею, якую Вы ім давалі. За такую ахвярнасць мы Вам вельмі ўдзячны. Няхай Бог адорвае Вас здароўем, радасцю і любоўю. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе ўсцелены пялёсткамі руж. Няхай Пан Езус праз нашы шчырыя малітвы аддзячыць Вам за тое, што вы зрабілі для нас.

*Са шчырай малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**

з нагоды Дня нараджэння прагнем скласці сардэчныя пажаданні шчодрых Божых ласкаў і толькі шчаслівых хвілін. Жадаем шмат радасці ў душпастарскай паслузе, а таксама сілы для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай усе людзі, якіх Вы сустрэнеце на святарскім шляху, адорваюць Вас дабрынёй і зычлівасцю, а ўсемагутны Бог няхай спасылае на Вас свае шчодрыя дары. Няхай Найсвяцейшая Маці ахінае Вас сваёй мацярынскай любоўю і апекай, асабліва ў цяжкія хвіліны, і выпрошвае ў Сына ўсе неабходныя Вам ласкі.

*Парафіяне з Росі*


Паважаны Ксёндз Юзаф Багдзевіч! Прыміце нашы шчырыя спачуванні ў сувязі са смерцю любімай матулі. Мы падзяляем Ваш боль і смутак. Няхай нашы словы стануць для Вас падтрымкай у гэты цяжкі час і дапамогуць перажыць страту блізкага чалавека.

*Касцёльны камітэт з пар. Космы і Дам’яна ў Астраўцы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com.; **http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 636 тыраж 6600; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная